БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Belarusian Collegium

# HOMO HISTORICUS 2016

## The Annual of Anthropological History

Edited by Aliaksandr Smalianchuk,
Doctor in History

БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Беларускі калегіум

# HOMO HISTORICUS 2016

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# ВІЛЕНСКІЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ ДЛЯ ГАБРЭЯЎ ЯК СРОДАК ТРАНСФАРМАЦЫІ ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ (1847–1918 гг.)

***Вольга Сабалеўская***
*канд. культуралогіі (Гародня)*

## *Summary*

The article examines the means of historical memory transformation of young Jews in the state rabbinic college and teachers of the Jewish institute (Jewish scholastic institute) of Vilnius during the 2nd half of the 19th century – beginning of the 20th century. The purpose of these educational establishments was to create a new intellectual elite of russified Jewish intellectuals – teachers and public rabbins, who were loyal to the authorities and could bring up Jewish children in modern spirit, rejecting their traditional way of life.

Ёсць навучальныя ўстановы, сэнс існавання якіх не толькі ў падрыхтоўцы дыпламаваных спецыялістаў альбо ў аб’яднанні педагагічных і навуковых кадраў. Іх заснаванне – гэта рубеж эпох для грамадскай думкі, нацыянальнай ідэі, палітыкі. У гісторыі габрэяў Расійскай Імперыі такой рубежнай з’явай сталі дзяржаўныя навучальныя ўстановы новага тыпу – рабінскія вучылішчы, а пазней габрэйскія настаўніцкія інстытуты. Яны павінны былі вырашыць фундаментальную задачу – стварыць новую эліту, супольнасць русіфікаванай габрэйскай інтэлігенцыі, рабінаў і настаўнікаў, лаяльных да ўлады і здольных выхаваць “цывілізаванае” пакаленне сваіх аднаверцаў, пазбаўленых “рэлігійнага фанатызму” і адданых дзяржаве.

Галоўнымі дзяржаўнымі навучальнымі ўстановамі для габрэяў беларускай часткі «мяжы аселасці» былі Віленскае

рабінскае вучылішча (1847–1873) і Віленскі габрэйскі настаўніцкі інстытут (1873–1918). Даследаваць іх дзейнасць дапамагае вывучэнне матэрыялаў 570 і 577 фондаў Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва (ЛДГА) у Вільні. Яны ўтрымліваюць афіцыйныя матэрыялы: справаздачы кіраўніцтву Віленскай навучальнай акругі, дакументы справаводства, звесткі пра колькасць вучняў і кандыдатаў у настаўнікі, якія здавалі кваліфікацыйныя іспыты пры Віленскім габрэйскім настаўніцкім інстытуце, інфармацыю пра побыт пансіянераў, арганізацыю навучальнага працэсу, правядзенне выхаваўчых мерапрыемстваў, паданні вучняў. Сярод іх практычна няма “жывых галасоў” эпохі, непасрэдных і шчырых разважанняў саміх вучняў пра лёс габрэйскага народа, выхавальніцкую місію настаўніка і г. д., што стварае пэўныя цяжкасці для вывучэння феномена гістарычнай памяці. Праўда, існуе магчымасць рэканструкцыі поглядаў на гэтыя праблемы асобаў, ад якіх залежаў працэс навучання, – кіраўнікоў навучальных устаноў і настаўнікаў, а таксама аналізу праграм навучання і выхавання, у адпаведнасці з якімі функцыянавалі Віленскае рабінскае вучылішча і Віленскі габрэйскі настаўніцкі інстытут. Тут амаль 70 год ажыццяўляўся эксперымент па змене свядомасці падрастаючага пакалення.

Гістарычная памяць як сукупнасць гістарычных міфаў і суб’ектыўных рэфлексій пра падзеі мінулага, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне, мае два вымярэнні – памяць народа і памяць асобы. Калі гаворка ідзе пра фарміраванне вобраза гістарычных падзей у свядомасці чалавека, асабліва істотным з’яўляецца ўплыў асяроддзя, у якім выхоўвалася дзіця. Марыс Хальбвакс у свой час ужыў для гэтага ўдалы выраз – “гістарычныя рамкі дзяцінства”[1]. Гістарычныя рамкі дзяцінства – гэта размовы дарослых у прысутнасці дзяцей пра істотныя падзеі, якія адбываліся на іх вачах, міфы і стэрэатыпы, якія ўтвараюць вобраз гістарычнай эпохі, яе “рамку”. Атмасфера сям’і, апавяданні дзеда альбо бабулі даюць дзіцяці ўнікальную магчымасць непасрэдна “дакрануцца” да мінулага, атрымаць у спадчыну традыцыі, лад жыцця і стыль мыслення.

Пры стварэнні новых навучальных устаноў паслядоўна праводзілася думка пра неабходнасць ізаляцыі навучэнцаў ад уплываў з боку сям’і. Яны былі пансіянерамі, на працягу года жылі ў інтэрнатах, пакідаць якія дазвалялася зрэдку і ненадоўга (“адлучкі” для таго, каб пашпацыраваць па Вільні і выбрацца на вакацыі). Пры гэтым трэба разумець, што калі гаворка ідзе пра беларускіх габрэяў, то ў Вільні яны знаходзіліся далёка ад родных гарадоў і мястэчак. Адзіным сродкам падтрымання сувязі з сям’ёй на працягу навучальнага года былі лісты, якія падвяргаліся люстрацыі з боку настаўнікаў. Натуральныя ка-

налы перадачы гістарычнай памяці былі перакрытыя. Для выхаванцаў было створана новае "прагрэсіўнае" асяроддзе. Падбор настаўніцкіх кадраў у віленскія навучальныя ўстановы для габрэяў быў асаблівым клопатам чыноўнікаў Міністэрства народнай асветы. Было вырашана, што кіраўніком як рабінскага вучылішча, так і настаўніцкага інстытута абавязкова павінен быць хрысціянін. Сімптаматычна, што калі ў 1870-я гг. кіраўніком настаўніцкага інстытута быў лютэранін Іван Зарававелевіч Гвайта, то ў часы рэакцыі 1890-х гг. пасаду заняў праваслаўны – кандыдат Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі Васіль Пятровіч Спаскі. Месца інспектара інстытута і настаўніка габрэйскіх прадметаў займаў адзін з першых выпускнікоў Віленскага габрэйскага настаўніцкага інстытута Аўсей Навумавіч Штэйнберг.

З дзевяці выкладчыкаў інстытута сямёра былі хрысціянамі і толькі двое (настаўнікі габрэйскай рэлігіі і спеваў) – габрэямі. Узровень іх адукацыі ўражвае: у сярэдзіне 1870-х гг. 67% выкладчыцкіх кадраў былі выпускнікамі ўніверсітэтаў. У 1890-я гг. доля выкладчыкаў з вышэйшай адукацыяй павялічылася да 78%. Яны былі выпускнікамі Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, Маскоўскай духоўнай акадэміі, Віленскага настаўніцкага інстытута і Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Ісаак Саўлавіч Цыянсон скончыў Санкт-Пецярбургскую кансерваторыю, Асір Лазаравіч Воль – Віленскае рабінскае вучылішча[2].

Што і казаць, стыль жыцця гэтых людзей і іх перакананні кардынальна адрозніваліся ад жыцця сваякоў навучэнцаў, якія засталіся ў беларускіх мястэчках. Выкладчыкі сімвалізавалі поспех, былі прыкладам удалай рэалізацыі новай жыццёвай стратэгіі, узорам для наследавання, у адрозненне ад незаможных сваякоў, якія ў "стагоддзе пары і электрычнасці" працягвалі жыць па старажытных законах Талмуда ў атмасферы застою і беднасці габрэйскіх супольнасцей «мяжы аселасці».

Як адзін з відаў сацыяльнай памяці, гістарычная памяць канцэнтруе не толькі разважанні пра гістарычныя падзеі, але і элементы побыту, звычкі, лад жыцця, уласцівы для пэўнага народа. Сувязь з бацькоўскім домам і асяроддзем, з якога выйшаў будучы настаўнік, у дзяржаўных навучальных установах для габрэяў перарывалася. З пункту гледжання дзяржавы гэта было добра, бо сярод сваякоў яны атрымлівалі "сапсаванае і неасвечанае" хатняе выхаванне. Мэта габрэйскага настаўніцкага інстытута як элемента дзяржаўнай сістэмы разумелася яго дырэкцыяй наступным чынам: *"...Садзейнічаць, магчыма, поўнаму зліццю габрэйскай масы з карэнным рускім насельніцтвам імперыі шляхам працяглага засваення навучэнцамі гэтых устаноў рускага духу і характару ў поглядах, мове, норавах і звычках"*[3].

Лад жыцця, прыняты ў Віленскім рабінскім вучылішчы і Габрэйскім настаўніцкім інстытуце, ствараў выразны кантраст з традыцыйным ладам жыцця габрэйскай супольнасці. Хедэрная моладзь увесь дзень праводзіла за вывучэннем Талмуда і малітвамі. Калі ж юнак ператвараўся ў галаву сям'і, увесь распарадак дня сваякоў будаваўся вакол яго талмудычных штудый і наведванняў сінагогі. У дзяржаўных навучальных установах для габрэяў традыцыйны лад жыцця быў зменены на карысць еўрапеізацыі. Настаўнікі імкнуліся выхаваць у навучэнцаў імкненне да здаровага ладу жыцця, элементам якога з'яўлялася фізічная культура. У расклад заняткаў трапіла гімнастыка, нярэдка ранняй восенню і позняй вясной праводзіліся пешаходныя экскурсіі ў маляўнічыя куткі Вільні. Да іх далучаліся, акрамя настаўніка гімнастыкі, выкладчыкі гісторыі, геаграфіі і прыродазнаўства, якія распавядалі вучням пра ўбачанае. На такіх шпацырах збіралі гербарыі, папаўнялі мінералагічную калекцыю.

У вольны час вучням прапаноўвалася заняцца карыснымі для фізічнага развіцця шпацырамі на роварах у былым Бернардзінскім садзе. Пры гэтым язда на роварах у іншых садах і на вуліцах Вільні была забаронена, а ў самім Бернардзінскім садзе выхаванцам дазвалялася знаходзіцца толькі да 18 гадзін. Велікадушная прапанова суправаджалася пагрозай: «*У выпадку парушэння кім-небудзь з вучняў пры яздзе на ровары ў Пабернардзінскім садзе правілаў прыстойнасці, будзе пазбаўлены права язды не толькі вінаваты, будзе накладзена забарона язды на ровары для ўсіх навучэнцаў установы*»[4].

У рамках расійскай сістэмы адукацыі для габрэяў прадугледжвалася не толькі авалодванне пэўным комплексам ведаў і набыццё грамадска карыснай прафесіі, але і трансфармацыя ўсяго ладу жыцця маладога пакалення «*ў духу сапраўды народна-рускіх пачаткаў*»[5]. Мелася на ўвазе манера апранацца, спосаб правядзення вольнага часу, кола чытання, гутарковая мова. Апошняму павінна было спрыяць спяванне рускіх песень. У 1894 г. настаўніцкім інстытутам быў закуплены зборнік рускіх народных і ваенных песень «Рускія спевы» Гольдмана[6].

Пра тое, наколькі важнае значэнне надавалася выхаванню любові да рускай песні настаўнікамі інстытута, сведчыць наступная доўгая цытата: «*Усе навучальныя прадметы па сутнасці сваёй вельмі касмапалітычныя, нават руская літаратура [...] больш ці менш адлюстроўвае ў сабе чужыя ідэі і погляды, але песня цэльная і самабытная, яна – плод народнага настрою з яго натуральным водарам [...]. Яна ўлівае ў дух іншародца асімілюючы пачатак, ажыццяўляе ў ім этнаграфічнае падабенства. Адсюль значэнне песні ў школе для іншародцаў. І вось гэта песня разносіцца выхаванцамі інстытута па габрэйскіх вучыліш-*

*чах, а адтуль, «з вуснаў немаўляці», пераходзіць ва ўсе пласты габрэйскага насельніцтва, дзе яна патроху робіцца агульнаўжывальнай, амаль што народнай. Гэта тым больш плённа, што габрэі ўласных народных песень не маюць наогул, ні на жаргоне, ні на габрэйскай мове»*[7].

Сярод "негабрэйскіх" спосабаў правядзення вольнага часу, якія сталі традыцыйнымі для віленскіх навучальных установ, з'явіліся наведванне тэатраў, шахматы, шашкі і музычныя заняткі. Трэба адзначыць, што музыканты стаялі на самым дне сацыяльнай іерархіі традыцыйнага габрэйскага грамадства. Між тым, калі верыць справаздачам дырэктара, музіцыраванне было любімым відам правядзення вольнага часу выхаванцаў Віленскага настаўніцкага інстытута. У ім існаваў хор і аркестр. З 68 вучняў, якія займаліся ў інстытуце ў 1894–1895 навучальным годзе, толькі двое не ўмелі граць на музычных інструментах. А найбольшай папулярнасцю карысталася канцэрціна *«за чысціню і мяккасць выманых з яго гукаў і параўнальную лёгкасць навучання на ім»*, на якім музіцыравала 65% выхаванцаў[8].

У дзейнасці віленскіх навучальных устаноў для габрэяў можна прасачыць ажыццяўленне захадаў па новай мемарыялізацыі мінулага. Месца традыцыйных рэлігійна-гістарычных свят габрэйскага народа, якія можна лічыць магутнымі сродкамі захавання гістарычнай памяці габрэйскай дыяспары, занялі дзяржаўныя святы і ўрачыстасці ў гонар знакамітых дзяржаўных дзеячаў Расійскай Імперыі, палкаводцаў, класікаў рускай літаратуры. Цэнтрам выхаваўчай работы ў рабінскім вучылішчы і настаўніцкім інстытуце сталі вечарыны. Развіваць велікарускі патрыятызм таксама павінны былі пазакласныя заняткі па рускай мове: літаратурныя чытанні, гутаркі, аматарскія драматычныя спектаклі і сцэнічнае выкананне вершаў у прысутнасці выкладчыкаў і выхаванцаў. Некаторыя музычна-літаратурныя вечары праходзілі ў губернатарскім палацы. На іх прысутнічала віленская інтэлігенцыя, прадстаўнікі ўлады і бацькі вучняў[9].

Прыкладам выхаваўчага мерапрыемства ў патрыятычным духу можа служыць літаратурна-вакальны ранішнік памяці генералісімуса Аляксандра Суворава, які адбыўся ў Віленскім настаўніцкім інстытуце 7 мая 1900 г. Актавая зала была ўпрыгожаная кветкамі, сярод якіх на пачэсным месцы стаяў партрэт А. В. Суворава. Хор выхаванцаў інстытута і вучняў пачатковага габрэйскага вучылішча выканаў гімн «Калі слаўны наш Гасподзь у Сіёне». Затым выкладчык гісторыі Емяльян Елізар'евіч Правасудовіч выступіў з прамовай, у якой падрабязна ахарактарызаваў заслугі палкаводца і значэнне яго дзейнасці для Расіі. Выкарыстоўваліся тэхнічныя навінкі: *«Чытанне прамовы суправаджалася дэманстрацыяй пры дапамозе «чароўнага ліхтара» адпавед-*

*ных светлавых карцін»*. Па заканчэнні прамовы вучні пачатковага вучылішча і двое выхаванцаў інстытута прадэкламавалі вершы Ключнікава, Цурыкава і Шаржынскага, прысвечаныя А. Сувораву, выканалі ваенныя песні[10].

У 1912 г. праводзіліся музычна-літаратурныя вечарыны ў гонар юбілею Палтаўскай перамогі, вызвалення ад аблогі Троіца-Сергіевай лаўры, юбілеяў пісьменнікаў М. Гогаля, С. Аксакава, паэта А. Кальцова. У справаздачы адзначаліся стараннасць, ахвота і пачуццё, з якім выхаванцы дэкламавалі літаратурныя творы патрыятычнага зместу і выконвалі адпаведныя ўрачыстасцям кантаты, гімны і рускія народныя песні[11].

Асаблівы непакой прыхільнікаў габрэйскай традыцыі выклікала палітыка русіфікацыі, якая выразна прасочвалася ў віленскіх навучальных установах. Вучні не толькі размаўлялі на рускай мове на занятках і паміж сабой, але таксама на гэтай мове з 1865 г. вывучалі рэлігійныя "габрэйскія прадметы". Гэта была ўжо не толькі русіфікацыя, але і прафанацыя, бо іўрыт, на якім напісаны ТаНаХ, лічыўся святой мовай. Яе ўжыванне пры выкананні рытуалаў сімвалізавала сувязь з гістарычнай радзімай, з пакаленнямі продкаў. Нядзіўна, што нямецкі асветнік Маісей Мендэльсон і яго прыхільнікі, якія ажыццявілі першы пераклад габрэйскага Пісання на сучасную еўрапейскую мову (нямецкую), былі названы габрэйскай супольнасцю Расіі ерэтыкамі. Адпаведная мянушка "апікойрэс" (эпікурэец, ерэтык) замацавалася і за вучнямі рабінскіх вучылішчаў Расійскай Імперыі.

*"Падчас свята Кушчаў і малебна з нагоды спынення халеры ў Вільні хор [Віленскага рабінскага вучылішча] [...] спяваў псалмы [у рускім перакладзе] у вялікай сінагозе, і гэтыя паводзіны былі прынятыя габрэйскім грамадствам са спагадай"*[12], – адзначалася ў справаздачы за 1865 год. Такая рэакцыя магла мець месца ў мадэрнізаваным габрэйскім асяроддзі, але з пункту гледжання кансерватыўных колаў спяванне псалмоў на рускай мове наогул, а асабліва падчас свята Сукот, прысвечанага сканчэнню егіпецкай няволі і вяртанню на радзіму габрэйства, было яскравым сімвалам змены гістарычнай памяці і здрады інтарэсам супольнасці.

Дарэчы, адмоўная рэакцыя на карыстанне рускай мовай як мовай рытуалу фіксавалася не толькі ў Беларусі. У Вільні ў жніўні 1868 г. на вучня рабінскага вучылішча, які разам з сябрам перакладаў Мішну на рускую мову, напала група габрэйскіх дзяцей, якую падгаварылі дарослыя. Калі хлопец вызваліўся, у адказ на пытанне *"У чым я вінаваты?"* ён даведаўся, што, *"чытаючы пераклад Мішны на рускую мову, што лічыцца ў габрэйскай чэрні святатацтвам, справакаваў сляпую фанатычнасць Клока і яго жонкі і так наклікаў на сябе ўсю бяду гэтую"*[13].

Але Міністэрства народнай асветы ставіла перад дзяржаўнымі ўстановамі адукацыі для габрэяў больш амбіцыйную задачу, чым пераклад ТаНаХа на рускую мову. Ад рабінскіх вучылішчаў чакалася *"ачышчэнне талмудычнага вучэння ад прымешкаў, якія напластаваліся на працягу стагоддзяў, якія не адпавядаюць сучасным патрабаванням"*. На думку чыноўнікаў, у казённых навучальных установах яно *"знаходзіцца пад пастаянным жыватворным уплывам агульначалавечых маральных пачаткаў"*[14].

Пры гэтым трэба зазначыць, што пэўная частка навучэнцаў мела ўласныя меркаванні пра будучыню габрэйскага народа, і яны не супадалі з дзяржаўнай ідэалогіяй. Некаторыя чыталі новую габрэйскую літаратуру дэмакратычнага свецкага накірунку. Гэта маглі быць, напрыклад, апавяданні на ідыш Ісаака Лейбуша Перэца, дапушчаныя цэнзурай, якія *«нічога антыпалітычнага альбо супярэчнага правілам дзяржаўнага парадку ў сабе не ўтрымліваюць, а толькі ставяцца з крытычным гумарам да некаторых звычаяў хатняга і збольшага рэлігійнага жыцця»*[15]. Шырока распаўсюджанае сярод моладзі канца XIX – пачатку XX ст. захапленне палітыкай не абмінула віленскія навучальныя ўстановы для габрэяў. Так, напрыклад, вучняў некалькі разоў арыштоўвалі за ўдзел у сходках, на якіх абмяркоўвалі пытанні тэорыі сіянізму, навіны з сіяніскага з'езду ў Базелі, чыталі нелегальную літаратуру. Адзін з іх перад самым носам наглядчыка інстытута згубіў квіткі латарэі, у якой разыгрываўся *«мастацкі партрэт Тэадора Герцэля»*. За гэта таксама выключалі з інстытута, нават калі не было доказаў, што навучэнцы насамрэч займаліся палітычнай дзейнасцю[16].

Навучэнцы, і асабліва выпускнікі, дзяржаўных навучальных устаноў для габрэяў у XIX ст. траплялі ў складаную сацыяльна-псіхалагічную сітуацыю. Атрыманне адукацыі еўрапейскага кшталту, дыпломы навучальных устаноў, пра якія самі габрэі казалі, што яны выхоўваюць папоў, а не рабінаў, стваралі мур паміж новай габрэйскай інтэлігенцыяй і асяроддзем, з якога яны выйшлі. Габрэйская супольнасць адмаўлялася запрашаць выпускнікоў рабінскіх вучылішчаў на пасады рабінаў. Паводле справаздачы міністра ўнутраных спраў за 1860 г., *"маладыя людзі, якія атрымалі адукацыю ў гэтых [рабінскіх – В.С.] вучылішчах, што належаць да новага рэлігійнага накірунку, сустрэлі сярод цемрашальскага натоўпу сваіх аднаверцаў моцны супраціў пры выбары на рабінскія пасады"*. Толькі пасля настойлівай тлумачальнай працы Міністэрства народнай асветы 15 габрэйскіх суполак прынялі да сябе рабінамі выхаванцаў «ерэтычных» вучылішчаў[17] .

Вымушаныя фармальна прыняць іх пасля выдання адпаведных пастаноў, суполкі насамрэч утрымлівалі на свае сродкі "духоўных рабінаў", аўтарытэт-

ных талмудыстаў з традыцыйнай хедэрна-ешыўнай адукацыяй, а да іх афіцыйных калег звярталіся толькі па пытаннях метрыкацыі.

У гэтых умовах у навучэнцаў дзяржаўных навучальных устаноў для габрэяў фармавалася ўласная групавая ці калектыўная памяць. Адчуваючы сябе не прынятымі з боку хрысціянскай супольнасці і адрынутымі праз аднаверцаў, яны імкнуліся гуртавацца, падтрымліваць адзін аднаго. Класныя журналы, дзе фіксаваліся выпадкі парушэнняў дысцыпліны, дэманструюць наяўнасць салідарнасці і ўзаемадапамогі сярод выхаванцаў. Гэтыя назіранні пацвярджае і рапарт настаўніка Асіра Воля, які адзначаў: *«Наколькі развіта ў вучняў пачуццё карпаратыўнага гонару, відаць з таго, што яны ніколі не скардзяцца адзін на аднаго свайму кіраўніцтву"* [18].

Статут Віленскага настаўніцкага інстытута прадугледжваў, што «казённакоштныя» вучні па заканчэнні курса навук павінны быць размеркаваны ў навучальныя ўстановы для габрэяў Міністэрства народнай асветы. Іх прызначалі на пасады настаўнікаў падрыхтоўчых класаў або памочнікаў настаўнікаў, радзей – настаўнікаў пачатковых габрэйскіх вучэльняў, якія ў 1880-х гг. былі ўжо ў кожным губернскім і павятовым горадзе. Выпускнік павінен быў праслужыць па размеркаванні 8 гадоў (па 2 гады за кожны год, праведзены ў інстытуце)[19]. У адваротным выпадку ён выплачваў у казну штраф, які павінен быў кампенсаваць дзяржаве кошт навучання. У сярэдзіне 1890-х гг. гэты штраф мог складаць да 600 руб. (у залежнасці ад колькасці гадоў навучання, на год па 150 руб.)[20]. Для казённакоштных вучняў – велізарная сума, калі прыняць да ўвагі, што заробак настаўніка пачатковага габрэйскага вучылішча складаў каля 350 рублёў на год[21].

Загад аб прызначэнні на якое-небудзь месца цалкам мяняў жыццё выпускніка, бо яго зусім не абавязкова адпраўлялі ў родны горад і нават у межы Віленскай навучальнай акругі. Напрыклад, Гешэль-Моўша Лейбавіч Фактар (м. Шклоў) і Азрыель Мееравіч Цырлін (г. Мсціслаў Магілёўскай губерні), Мордух Ізраілевіч Крайнавіч (г. Ліда Віленскай губерні), Шмуель Беркавіч Ляхавіцкі (м. Моўчадзь Гарадзенскай губерні) у 1891 г. былі прызначаныя ў Адэскую навучальную акругу[22]. Моўша Міхелевіч Ліўшыц з Полацка паехаў у Роўна Валынскай губерні. Якаў-Лейб Маісеевіч Левін, родам з Віцебскай губерні, быў накіраваны ў Коўна, Шлёма Айзік-Беркавіч Люстрэнік са Слуцка Мінскай губерні – у Беласток[23].

Ніхто з сямі выпускнікоў Віленскага габрэйскага настаўніцкага інстытута 1891 г., што нарадзіліся на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, не вярнуўся на тэрыторыю роднай губерні. Перасоўванне выпускніка інстытута ў іншы рэгіён Расійскай Імперыі не магло не паўплываць на псіхалагічны склад асобы,

ператвараючы маладога чалавека з носьбіта пэўнай мясцовай традыцыі ў прадстаўніка прафесіі, вяшчальніка дзяржаўнай палітыкі ў галіне адукацыі.

Такім чынам, Віленскае рабінскае вучылішча і Віленскі габрэйскі настаўніцкі інстытут прычыніліся да ажыццяўлення праекта ўрада па ўкараненні асімілятарскай мадэлі асветы ў габрэйскае асяроддзе. З іх сцен выйшлі шматлікія літаратары і грамадскія дзеячы, напрыклад: пісьменнік Абрам Ізраілевіч Паперна, педагог Іона Герасімавіч Герштэйн, рабін і пісьменнік Саламон Мінор, пісьменнік і публіцыст Леў Восіпавіч Ляванда, педагог і публіцыст Маісей Сямёнавіч Гурвіч[24]. Шэраг выпускнікоў рабінскага вучылішча і настаўніцкага інстытута вярнуліся назад у якасці выкладчыкаў. Прыходзячы ў сцены гэтых навучальных установ учарашнімі хедэрнымі хлопцамі, многія юнакі пакідалі іх адданымі праваднікамі царскай палітыкі па "абрусенні" габрэяў.

У казённых габрэйскіх вучылішчах, настаўнікамі і наглядчыкамі якіх яны сталі, гаворачы словамі аднаго з былых вучняў Віленскага настаўніцкага інстытута Маісея Гурвіча, *"...укараніліся чыста рускія пачаткі, там запахла Руссю, і гэта выклікала любоў кіраўніцтва, праваслаўнага духавенства і ўсяго рускага грамадства"*[25]. У іх свядомасці сфарміравалася новае ўяўленне пра будучыню нацыі, а гэта, як адзначаў П'ер Нара, дыктуе сацыяльнай групе пэўнае ўяўленне пра тое, што яна павінна ўтрымаць з мінулага, каб падрыхтаваць гэтую будучыню[26]. Будучыня бачылася новай габрэйскай інтэлігенцыі ў «рэвалюцыі духу», зліцці з рускім народам, што супярэчыла вобразу думак абсалютнай большасці габрэяў "мяжы аселасці". Страціўшы сувязь з мінулым, многія выпускнікі рабінскіх вучылішчаў і габрэйскіх настаўніцкіх інстытутаў былі адрынутыя сваім народам, таму прайшлі шлях ад палымянай веры да нігілізму альбо хрышчэння.

## *Заўвагі*

1 Хальбвакс М. Коллективная и историческая память // Русский журнал [Электронны рэсурс]. – 2015. – Рэжым доступу: http://magazines.russ.ru/nz/2005/2/ha2.html. – Дата доступу: 12.05.2015.

2 Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей – ЛДГА). Ф. 570, воп. 1, адз.з. 92,. Арк. 38 адв.-40 адв.; Адз.з. 60. Арк. 80–81.

3 ЛДГА. Ф. 570, воп. 1, адз.з. 60. Арк. 63 адв.

4 Ibidem. Арк. 3.

5 Ibidem. Арк. 52.

6 Ibidem. Арк. 18.

7 Ibidem. Адз.з. 69. Арк. 78 адв.

[8] Ibidem. Адз.з. 60. Арк. 66 адв. – 67.
[9] Ibidem. Адз.з. 69. Арк. 67–67 адв., 78.
[10] Ibidem. Адз.з. 70. Арк. 25–25 адв.
[11] Ibidem. Адз.з. 137. Арк. 182.
[12] Ibidem. Ф. 577, воп. 1, адз.з. 8. Арк. 15 адв.
[13] Ibidem. Адз.з. 26. Арк. 2 адв.
[14] Ibidem. Адз.з. 16. Арк. 9 адв.
[15] Ibidem. Ф. 570, воп. 1, адз.з. 74. Арк. 8.
[16] Ibidem. Адз.з. 137. Арк. 113.
[17] Ibidem. Ф. 577, воп. 1, адз.з. 16. Арк. 9.
[18] Ibidem. Ф. 570, воп. 1, адз.з. 69. Арк. 77 адв.
[19] Ibidem. Адз.з. 43. Арк. 24.
[20] Ibidem. Адз.з. 73. Арк. 2, 13.
[21] Ibidem. Адз.з. 56. Арк. 139.
[22] Ibidem. Арк. 61, 76, 82, 83, 108.
[23] Ibidem. Арк. 85–85 адв.
[24] Ibidem. Ф. 577, воп. 1, адз.з. 14. Арк. 3–7.
[25] Ibidem. Адз.з. 25. Арк. 16 аб.
[26] Нора П. Всемирное торжество памяти // Русский журнал [Электронны рэсурс]. – 2015. – Рэжым доступу: http://magazines.russ.ru/nz/2005/2/nora22.html. – Дата доступу: 16.03.2015.